**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 02 (875) 12 студзеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**



Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Маразы! Самы час дапамагчы птушкам!**



*Фота reporter.rzn.info*













## У Беларусі змяняюцца правілы прыёму ва ўстановы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі

**У Беларусі змяняюцца правілы прыёму ва ўстановы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Адпаведны ўказ падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.**

Асноўнымі новаўвядзеннямі з'яўляюцца магчымасць здачы цэнтралізаванага тэсціравання па чатырох вучэбных прадметах, пашырэнне тэрміну дзеяння сертыфікатаў ЦТ да двух гадоў, арганізацыя да трох рэзервовых дзён ЦТ. У адпаведнасці з дакументам уводзяцца льготы для профільных класаў педагагічнага напрамку пры паступленні на педагагічныя спецыяльнасці: залічэнне на дзённую бюджэтную форму атрымання вышэйшай педагагічнай адукацыі выпускнікоў такіх класаў па выніках гутаркі, пры гэтым тэрмін далейшай абавязковай работы па размеркаванні складзе не менш як пяць гадоў.

Акрамя таго, створаны роўныя ўмовы конкурсу пры паступленні на сельскагаспадарчыя спецыяльнасці ва ўсе ўстановы вышэйшай адукацыі. Для паступаючых у скарочаны тэрмін ва ўстановы вышэйшай адукацыі ўсіх профіляў прадугледжаны два ўступныя іспыты па дысцыплінах вучэбнага плана сярэдняй спецыяльнай адукацыі, якія вызначаюцца прыёмнай камісіяй ВНУ.

Таксама ўдакладнены асобныя працэдурныя і тэхнічныя пытанні прыёмнай кампаніі. Змяненні і дапаўненні ў правілы прыёму захоўваюць існуючую сістэму прыёму ва ўстановы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, забяспечваюць захаванне разумнага балансу інтарэсаў дзяржаўных органаў - заказчыкаў кадраў, устаноў адукацыі, абітурыентаў і іх бацькоў, а таксама накіраваны на павышэнне канкурэнтаздольнасці ўстаноў прафесійнай адукацыі рэспублікі і якасці адбору найбольш падрыхтаваных абітурыентаў.

*БелТА.*









ISSN 2077-8023



Талачынскі раён

# Школа заўтрашняга дня

■ Чэслаў Якубовіч.

**Як бы складана ні было ў краіне з фінансамі, але ўсё самае лепшае будзе рабіцца для дзяцей.**

Адной з самых значных падчас штогадовай акцыі "Нашы дзеці" стала ўрачыстае адкрыццё пасля капітальнай рэканструкцыі СШ № 2 у Талачыне. У гэтым райцэнтры калісьці гэта школа была драўлянай, потым у алімпійскім 1980 годзе на яе месцы пабудавалі новую, якая за столькі часу даволі сур'ёзна знасілася і патрабавала рамонту. На шчасце, яе з падобнай школай у Дуброўне ўключылі ў праект абнаўлення, які ажыццяўляецца з дапамогай Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця. Пастараліся і будаўнікі славутай Круглянскай ПМК № 266, якія за 4 месяцы працы выканалі вялізны аб'ём работ коштам 17 млрд. старых рублёў. За такія сродкі будынак школы, які зноў прыняў 752 вучні, змяніўся і бысцам памаладзеў. Тут замянілі ўсе камунікацыі, вокны і дзверы, аснасцілі па апошняй модзе сталовую, кабінеты, актавую і спартыўную залы. На ўрачыстасці спецыяльна прыехаў глава вобласці Мікалай Шарстнёў і ўручыў школе сертыфікат у суме 150 тысяч рублёў у новых цэнах. Па ягоным даручэнні ў школе з'явіцца найноўшы камп'ютарны клас, кабінеты хіміі і біялогіі па апошнім слове тэхнікі. Гэта павінна дапамагчы школьнікам стаць высокаадукаванымі людзьмі, бо вучыцца ў новенькіх светлых і ўтульных класах стала вельмі прыемна. У гэтым пераканаліся госці ўрачыстасцей падчас экскурсіі па школе, у якой цяпер з'явілася шмат сучасных мультымедыйных сродкаў навучання.

Браслаўскі раён

# Вось дык "пакатаўся"

■ Станіслаў Раманчук.

**Вось што адрознівае асобных суайчыннікаў на падпітку, у такім стане яны перастаюць кантраляваць свае паводзіны.**

З такой нагоды дзіўны малюнак давялося назіраць днямі ў выхадны дзень жыхарам Браслава. Каля апоўдні па вуліцы Садовай, віляючы з боку ў бок па дарозе, ехаў аўтапагрузчык. Як высветлілася потым, гэту тэхніку самавольна ўзяў у будаўнічай пляцоўкі ля ўзводзімага новага будынка філіяла "Беларусбанка" супрацоўнік з адной з арганізацый абласнога цэнтра. Віцябляніна знаходзіўся тут у камандзіроўцы, не ведаў, чым заняцца і вырашыў такім чынам проста "пакатацца". У выніку гора-кіроўца стаў вінаватым адразу трайнога ДТЗ. У нецвярозым стане ён спачатку пратараніў першы прыпаркаваны на краі дарогі легкавы аўтамабіль. Замест таго, каб спыніцца, угоншчык паехаў далей. Яго хацелі затрымаць супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі, але госць азёрнага краю паспрабаваў ад іх уцячы і павярнуў у адзін з завулкаў. На сваю бяду ездзіць ён не ўмеў, бо і вадзіцельскімі правамі не абзавёўся. Не дзіўна, што без навыкаў кіроўцы мужчына пратараніў яшчэ адну легкавушку, а потым знёс і плот прыватнай забудовы. Толькі пасля гэтага аматара прыгод міліцыя затрымала і пачала расследаванне прыкрага інцыдэнту, у якім, на шчасце, людзі не пацярпелі. Дарэчы, такія здарэнні пачасціліся. На Браслаўшчыне ў лістападзе жыхар гарпасёлка Відзы заявіў пра ўгон свайго аўто. "Угоншчыкам" у той дзень аказаўся яго сабутэльнік, які ўзяў самавольна машыну, з'ездзіў у магазін за дабаўкай. Пазней ён вярнуў аўтамабіль на месца, але ўсё роўна будзе адказваць за ўгон транспартнага сродку.

Полацкі раён

# Выжылі, а ці надоўга?

■ Кастусь Александровіч

**Адчувальны крызіс у беларускай эканоміцы апошнім часам моцна адбіўся і на айчынным спорце.**

Раней за іншых адчуў гэтыя цяжкасці футбольны клуб элітнага дывізіёна "Нафтан" з Наполацка. Яшчэ летась 10 вядучых былых ігракоў каманды падалі ў суд за вялікія запазычанасці за зарплаце і прэміяльных па выніках папярэдняга сезона, у якім яна заняла высокае 5-е месца ў вышэйшай лізе. Калі з фінансамі ў асноўнага спонсара клуба, гіганта нафтаперапрацоўкі было ўсё ў парадку, навапалачане двойчы выйгравалі Кубак Беларусі, даволі паспяхова гулялі ў еўракубках. Аднак у гэтым годзе "Нафтан" застаўся без многіх сваіх ранейшых лідараў, а летам і без галоўнага трэнера, толькі цудам у апошнім туры дзякуючы перамозе ў выязным матчы ў Гродне пазбег вылету ў 1-ю лігу. Аднак хоць прапіску ў эліце футбольная каманда нафтаграда захавала, яе многія праблемы засталіся. У выніку адпаведны камітэт АБФФ за непагашаныя даўгі зняў з ФК "Нафтан" 3 ачкі ў будучым чэмпіянаце краіны 2017 года. Горш таго, калі сітуацыя не зменіцца, то да канца студзеня з клуба знімуць яшчэ 1 ачко, а да канца сакавіка ў турнірнай табліцы будзе мінус 6 ачкоў. Праўда, каманда здолела зарабіць 100 тысяч долараў ад трансфераў, яна прадала двух лепшых сваіх маладых ігракоў у Барысаў і Брэст. Аднак калі тут далей не будзе каму гуляць, то лёс яўных аўтсайдараў першынства навапалачанам гарантаваны.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 05.01.17 | | | | Пятніца 06.01.17 | | | | Субота 07.01.17 | | | | Нядзеля 08.01.17 | | | | Пан. 09.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -9 | -12 | -13 | -13 | -14 | -15 | -15 | -17 | -18 | -20 | -17 | -22 | -22 | -18 | -14 | -16 | -15 | -18 | -17 |
| Ціск | 731 | 735 | 742 | 747 | 752 | 755 | 758 | 759 | 759 | 756 | 755 | 753 | 752 | 751 | 751 | 750 | 749 | 748 | 749 |
| Вецер м/сек | 8 Пн | 8 Пн | 7 Пн | 7 Пн | 6 Пн | 4 Пн | 3 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 1 Пн | 1 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 2 Пд | 0 ШТЛ | 1 У | 2 У |
| Вільготнасць | 92 | 93 | 92 | 92 | 88 | 89 | 88 | 93 | 94 | 98 | 95 | 98 | 98 | 89 | 87 | 93 | 91 | 93 | 89 |

# Аб самым надзённым

## ПАСЛЯ РАСПАДУ СССР У БЕЛАРУСІ НЕ АТРЫМАЛАСЯ ПАКУЛЬ СТВАРЫЦЬ ЭФЕКТЫЎНУЮ ЭКАНОМІКУ ПА САВЕЦКАЙ МАДЗЕЛІ ГАСПАДАРАННЯ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Жыццё беларусаў у многім адрозніваецца ад мінулай эпохі "развітага сацыялізму". Аднак, па падліках спецыялістаў, жыццёвы ўзровень многіх слаёў насельніцтва па-ранейшаму застаецца даволі нізкі. Зараз у Беларусі працягваецца адчувальны эканамічны спад.**

Ніхто не стане аспрэчваць, што так хутка ляціць цяперашні час, а падзеі сусветнай гісторыі разгортваюцца вельмі дынамічна. Ужо ў школьных падручніках гісторыі нашы дзеці і ўнукі чытаюць, як чвэрць стагоддзя назад на беларускай зямлі ў Віскулях лідары трох славянскіх рэспублік падпісалі пагадненне аб распадзе тагачаснай звышдзяржавы – СССР. Больш маладое пакаленне гэту падзею цьмяна памятае, а вось мяне 25 гадоў назад яна парадавала. Ва ўсялякім разе для Беларусі, тады думалася, адкрылася перспектыва атрымання рэальнага суверэнітэту, свабоды і незалежнасці, хацелася жыць інакш, без пастаяннага дэфіцыту, чэргаў і фальшывых лозунгаў.

Адэкватным людзям былі зразумелы прычыны крушэння савецкай імперыі, асабіста я на рэферэндуме вясной 1991 года, у адрозненне ад многіх землякоў, за захаванне Саюза не галасаваў. Ды і зусім нядаўна беларускі лідар А. Лукашэнка шчыра па гэтай тэме выказаўся: " Причина распада Советского Союза? Да не сочиняйте ничего – стирального порошка не хватало. Мне жалко было смотреть на женщин в очереди, да и сам не единожды стоял…" Сапраўды, нікуды не дзецца ад таго факта, што савецкая планава-камандная эканамічная мадэль зайшла тады ў тупік, прайграла саперніцтва і гонку ўзбраенняў падчас "халоднай вайны" Заходу, дзе ўзровень жыцця быў і застаецца значна больш высокім, чым у нас.

З таго часу лёсы былых савецкіх рэспублік і краін савецкага лагера склаліся па-рознаму. Вось прыбалтыйскія народы ажыццявілі сваю мару, вярнуліся назад у Еўропу, хоць жыццё там для многіх не мёд. Але ж нашы суседзі-літоўцы зарабляюць цяпер у 2 разы болей беларусаў, не кажучы ўжо пра палякаў з зарплатамі пад тысячу еўра ў месяц. Праўда, на беларускай зямлі стаяць тысячы помнікаў Леніну, захаваліся старыя камуністычныя назвы, ранейшыя гіганты індустрыі і ў многім ранейшыя падыходы ў эканоміцы, але хоць полкі магазінаў змяніліся, значна прыбавілася легкавых аўтамабіляў у людзей.

Жыццё беларусаў у многім адрозніваецца ад мінулай эпохі "развітага сацыялізму". Аднак, па падліках спецыялістаў, жыццёвы ўзровень многіх слаёў насельніцтва па-ранейшаму застаецца даволі нізкі. Зараз у Беларусі працягваецца адчувальны эканамічны спад. Даволі значна сёлета скараціўся выпуск беларускіх нафтапрадуктаў, а гэта для краіны – залатая жылка. У айчынным машынабудаванні – таксама сур'ёзны рэгрэс, а гэтай галіной мы здаўна ганарыліся. На большасці заводаў і фабрык працягваецца зніжэнне заробкаў. Знайсці працу асабліва ў глыбінцы стала няпроста, расце беспрацоўе, невыпадкова паставілі задачу ствараць штогод да 50 тысяч новых працоўных месц.

Як вядома, новаяўленых "дармаедаў" вырашылі пасля нарады ў Мінску пакуль не штрафаваць, але кіраўнік дзяржавы не стаў адмяняць гэты Дэкрэт, які з'явіўся не ў самы спрыяльны час. З аднаго боку за 25 гадоў у Беларусі ўдалося стварыць моцную у адміністрацыйным плане дзяржаву, яе вертыкаль працуе зладжана, на вуліцах чыста, знешне бысцам парадак. Аднак стварыць такі ж надзейны эканамічны фундамент яўна не атрымалася, вылазіць зараз бокам стаўка на савецкую эканамічную спадчыну і на знешнюю дапамогу найперш з боку галоўнага саюзніка, суседняй Расіі. Горш таго, на фінішы гэтага года расійска-беларускія супярэчнасці абвастрыліся.

Невыпадкова з падачы Расіі нам так і не выдзелілі трэці транш крэдыту ЕФСР. Ды і нафтагазавы канфлікт расцягнуўся занадта доўга. Спрэчкі аб справядлівым кошце расійскага газу цягнуліся практычна ўвесь год. Кіраўнік Рассельгаснагляду С. Данкверт днямі гнеўна абрушыўся на нашу краіну, абвінаваціў беларусаў фактычна ў кантрабандзе і ў нядобрасумленных паводзінах. Расійскі манапаліст "Газпрам" невыпадкова спыніў будаўніцтва ў беларускай сталіцы свайго офіса-хмарачоса. Беларускі лідар шчыра днямі абураўся падчас сустрэчы з іркуцкім губернатарам, што нават за мяжой пачалі нібыта смяяцца з Еўразійскага саюза, калі ўнутры гэтага аб'яднання зменшыўся тавараабарот.

Вось толькі ніхто беларусаў у карак не гнаў, самі захацелі гуляць у "братэрскую інтэграцыю", нават міфічную "Саюзную дзяржаву Расіі і Беларусі" стварылі. На справе ж з'явіліся апошнім часам значныя бар'еры не без умяшання Крамля на шляху продаж айчынных тавараў на расійскім рынку. Рэзка павялічылася да 443 млн. долараў адмоўнае сальда знешняга гандлю беларусаў з Расіяй. Стан спраў у беларускай эканоміцы у вельмі многім, сапраўды, залежыць ад сітуацыі ў Расіі. Такі факт даволі непрыемны за чвэрць стагоддзя існавання Беларусі як самастойнай дзяржавы. Калі з крамлёўскай вярхушкай кіраўніцтву Беларусі не ўдасца знайсці кампраміс, то наступаючы 2017 год можа прынесці кожнаму з нас новыя непрыемныя моманты.

## Дзень за днём

**Знешні доўг Беларусі перавысіў 13,5 млрд. USD, краіна наблізілася да зоны дэфолту. Беларусі не выдзелілі 3-ці транш з фонду ЕАЭС у суме 300 млн. USD. Кожнае пятае айчыннае прадпрыемства стала стратным. Экспарт беларускіх нафтапрадуктаў скараціўся на 15 %, а ў Расію – нават у 3 разы. А. Лукашэнка загадаў дапрацаваць Дэкрэт аб дармаедах, але адмяняць не стаў. Ужо больш 1,5 года зніжаюцца заробкі беларусаў. Прайшла комплексная праверка Беларускай АЭС. Карпарацыя "Газпрам" закансервіравала будаўніцтва свайго хмарачоса ў Мінску. Зборная Беларусі па футболе зноў засталася без галоўнага трэнера.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** У тэлевізійным звароце да нацыі прэзідэнт Франсуа Алланд аб'явіў, што не будзе дабівацца перавыбрання на другі тэрмін на выбарах у маі 2017 года.

**Турцыя.** У Анкары сірыйская апазіцыя правяла таемныя перамовы з прадстаўнікамі Расіі ў абыход ЗША па зняцці блакады з Алепа, з Масквой шукаюць кантакты і іншыя сілы.

**Бельгія.** Палітыку ЕС у адносінах Беларусі, як заявіла глава яе дыпламатыі Ф. Магерыні, будуць вызначаць крокі Мінска па павазе правоў чалавека, уключаючы смяротную кару.

**Аўстрыя.** Перамовы Пуціна з лідарамі Ірана і Саудаўскай Аравіі дапамаглі краінам-членам АПЕК дамовіцца аб скарачэннях здабычы нафты, на такі крок пайшла і Расія.

**Англія.** Вядомы вучоны, фізік-тэарэтык Сцівен Хокінг заявіў, што для чалавецтва насталі самыя небяспечныя часы з-за паскарэння эканамічнай няроўнасці, непаразумення класаў.

**Украіна.** Намеснік міністра па справах Данбаса Р. Тука заявіў, што лідараў сепаратыстаў Захарчанку, Плотніцкага, Гіві знішчаць спецслужбы РФ, бо яны занадта шмат ведаюць.

**Расія.** Хоць Пуцін у пасланні Федэральнаму сходу, як заявіла "Независимая газета", ні разу не ўзгадаў Украіну, гэта не дапаможа "замарожанай эканоміцы", З год народ бяднее.

**ЗША.** У выніку няшчаснага выпадку падчас падрыхтоўкі сцэны да прадстаўлення загінуў 43-гадовы сын аднаго са стваральнікаў славутага цырка du Soleil Аліўе Рашэтт.

**Украіна.** Палітолаг А. Палій папярэдзіў, што ўзрасла пагроза анексіі Беларусі з боку Расіі, яшчэ ў 2002 годзе Пуцін прапанаўваў раздзяліць гэту краіну на 6 абласцей.

**Фінляндыя.** Пасля перапынку кампанія Nokia зноў пачала выпуск танных мабільных тэлефонаў на аперацыйнай сістэме Android з простым доступам у Інтэрнэт.

**Тайланд.** Пасля 50 дзён жалобы краіну ўзначаліў новы кароль Рама ІХ, адзіны сын памерлага 88-гадовага былога манарха, задаволіў просьбу тайскага парламента і ўрада.

**Бельгія.** У спіс Сусветнай нематэрыяльнай культуры ЮНЕСКА ўключыла мясцовае піва, якое ў краіне вараць каля 1500 гатункаў, яго выкарыстоўваюць і для вырабу сыроў.

**Расія.** Прама з банкаўскага сховішча ў Маскве злодзеі ўкралі ў вядучага тэлепраграмы "Чалавек і закон", А. Піманава паўмільёна долараў.

**Нарвегія.** Свой тытул чэмпіёна свету па шахматах адстаяў нарвежац М. Карлсэн, яму год дапамагаў у якасці трэнера расійскі апазіцыянер Г. Каспараў, што абурыла СМІ Крамля.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст Л. Злотнікаў папярэдзіў, што павышэнне сусветных цэн на нафту будзе нядоўгім, а Беларусь нічога не атрымае ад такога росту цэн на энерганосьбіты.

**Ашмяны.** Толькі праз 9 гадзін чакання ноччу беларускія пагранічнікі і мытнікі прапусцілі праз граніцу аўтобус з 6-гадовымі нашымі дзецьмі, літоўцы патрацілі на гэта паўгадзіны.

**Асіповічы.** Арбітражны суд Масквы пастанавіў спагнаць з мясцовага вагонабудаўнічага завода-банкрута звыш 2,4 мільёна долараў на карысць Еўразійскага банка развіцця за даўгі.

**Мінск.** Міністр абароны А. Раўкоў абверг інфармацыю расійскага палітолага В. Салаўя аб правядзенні сярод афіцэраў закрытага апытання аб аб'яднанні Беларусі з Расіяй.

**Астравец.** Адставанне ад графіка работ па 1-ым энергаблоку АЭС склала 1-3 месяцы з-за недахопу каля 800 будаўнікоў, лепшыя кадры пачалі звальняцца з-за зніжэння зарплат.

**Бабруйск.** Школьніца ва ўзросце 14 год з ВІЧ-інфекцыяй не панясе адказнасці за яе распаўсюджванне, яна паведаміла, што мела палавыя сувязі са старшынёй сельсавета.

**Мінск.** Параўнанне ў СМІ РФ беларусаў з украінцамі, як заявіў палітолаг П. Быкоўскі, стала пачаткам апрацоўкі грамадскай думкі, што Беларусь перастала быць сябрам Расіі.

**Брэст.** На таргі ў снежні фонд "Брэстабламаёмасць" выставіў на продаж звыш 120 будынкаў і збудаванняў, з пачатку года ў вобласці прадалі 115 аб'ектаў нерухомасці.

**Мінск.** Вядомы вучоны, прафесар М. Кадыраў назваў існуючую сацыяльна-эканамічную мадэль нежыццёздольнай і заклікаў улады як мага хутчэй пачаць яе рэфармаванне.

**Гарадзея.** У бальніцы ад атрыманых моцных апёкаў памёр пасля падзення ў чан з кіпенем падчас высвятлення няспраўнасці 51-гадовы начальнік вытворчасці цукровага камбіната.

**Магілёў.** Следства выявіла, што мясцовага прадпрымальніка летам забілі і забетанавалі ў гаражы яго знаёмыя ў выніку канфлікту з-за падзелу сумесна набытай маёмасці.

**Фаніпаль.** Каля апоўдня ў магазіне "Фабрыка здароўя" агракамбіната "Дзяржынскі" невядомы злодзей украў з курткі 38-гадовага мінчаніна партмане з 3 тысячамі долараў.

**Слонім.** Спецыяльны сейф для захоўвання зброі трэба тэрмінова набыць главе раёна А. Таргонскаму, бо міністр абароны Беларусі А. Раўкоў падараваў яму аўтамат.

**Магілёў.** Вечарам у адной з кватэр затрымалі 22-гадовага мужчыну па падазрэнні ў забойстве з асаблівай жорсткасцю яго аднагадовага сына.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Мёры.** З ходам будаўніцтва металапракатнага завода азнаёміўся і правёў нараду віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка, каб навярстаць адставанне ад графіка работ.

**Віцебск.** З-за эканамічнага крызісу абласны бюджэт па выніках 2016 года недаатрымае амаль 44 мільёна рублёў, яшчэ на 80 мільёнаў зменшыліся датацыі з нацыянальнага бюджэту.

**Орша.** Плаўленыя сыркі мясцовага сырзавода і мясныя кансервы для дзіцячага харчавання Аршанскага МКК сталі пераможцамі нацыянальнай прэміі спажыўцоў "Народная марка".

**Віцебск.** Мясцовыя вучоныя-медыкі ўпершыню паспяхова правялі аперацыю па трансплантацыі печання, праўда, пакуль у парадку эксперыменту на свінні.

**Браслаў.** Філіял Глыбоцкага МКК "Браслаўрыба" наладзіў закупкі марской рыбы з Крыма і давёў асартымент рыбных кансерваў да 32-х найменняў, пачаў мантаж новай лініі.

**Віцебск.** У абласным кардыялагічным цэнтры адкрыўся новы сучасны ангіяграфічны кабінет, штогод тут будуць рабіць да 1,5 тысяч хірургічных аперацый на сасудах сэрца.

**Мёры.** На базе раёна прайшоў у райаграсервісе і ў ААТ "Чэрасы" абласны семінар-нарада па падрыхтоўцы сельскагаспадарчай тэхнікі да веснавых палявых работ у 2017 годзе.

**Глыбокае.** Абласная пракуратура выявіла ў раёне і іншых рэгіёнах вобласці парушэнні заканадаўства пры прызнанні асобных дамоў, непрыгоднымі для пражывання.

**Паставы.** Работнікаў райаграсервіса і ААТ "Блакітныя азёры" засмуціла, што 2 гады працы не залічаць ім у стаж для налічэння пенсій, год "згубілі" 4 гаспадаркі і льнозавод.

**Віцебск.** Днём ля Кіраўскага маста сутыкнуліся некалькі машын, у тым ліку аўтамабілі міліцыі і хуткай дапамогі, пашкоджанні атрымаў супрацоўнік дэпартамента "Ахова" МУС

**Верхнядзвінск.** Сям'я прадпрымальнікаў Вольгі і Міхаіла Кавалёнкаў купіла былую фірменную краму хлебазавода, зрабіла ў ёй рамонт і адкрыла новы магазін "Эканом плюс"

**Полацк.** З памяшкання цэнтральнай бібліятэкі імя Ф. Скарыны эвакуіравалі 63 чалавекі, калі там у архіве ўзнік пажар, агонь пашкодзіў падлогу, праводку, закапціў сцены і кнігі.

**Докшыцы.** Вучні Крулеўшчынскай СШ ажыццявілі пешы паход па памятных мясцінах Вялікай Айчыннай вайны, наведалі мемарыяльныя комплексы "Дальва" і "Хатынь".

**Орша.** Вечарам у 21.50 гадзіны каля вёскі Зубава 28-гадовы кіроўца УАЗа не справіўся з кіраваннем, зляцеў у кювет, ударыўся ў дрэва і загінуў на месцы аварыі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Што вы чакаеце ад 2017 года?

**З надыходам Новага года людзі звычайна звязваюць новыя мары, чаканне нечага лепшага, радаснага. А што чакаюць ад новага года жыхары Глыбоччыны спрабавалі высветліць карэспандэнты «Вольнага Глыбокага».**



**Вольга Гінько, дырэктар Празароцкай школы:**

– Новы год, Каляды, каб Бог абараняў ад дрэннага, ад злога. Каб у кожнай хаце, і на покуце, і ў душы чалавека быў Бог, каб ён нам дапамагаў у першую чаргу. Каб Новы год прынёс нам дабрабыт, здароўе, шчасце ў сем'ях. А паколькі з'яўляюся дырэктарам школы, хацелася б, каб былі шчаслівыя нашы дзеці. І каб у іх была будучыня.



**Вячаслаў Дзямідка, прадпрымальнік:**

– Пазітыўнага настрою. Каб усё станавілася толькі лепшым, каб маладое пакаленне больш актыўна сябе праяўляла, бо ад нас залежыць будучыня.



**Яўген і Вольга Бельчанковы, будаўнік і настаўніца:**

Хацелася б, каб было так, як апошнія гадоў дваццаць, і трохі яшчэ лепш. У гэтым годзе, здаецца, неяк трохі прэснавата людзям жылося, хацелася б, каб у наступным годзе было больш радасці. Каб больш было дабрабыту, бо фінансавы складнік таксама вельмі важны. Больш магчымасцяў каб у людзей было. Каб менш было сумных поглядаў на тое, што хочацца набыць, а каб было больш радасці ад таго, што ты гэта набыў. Каб гэта было не ў вашых марах, а стаяла ў вас дома. Ну, а самі мы чакаем папаўнення ў сям'і.

**Віктар Дудкевіч, рамеснік:**



– Што прынясе, тое і будзе. Хацелася б, вядома, каб год быў лепшы за мінулы. Каб Бог даў розум людзям, каб яны маглі адрозніваць добрае ад дрэннага. Каб нашы людзі перасталі быць сіротамі, а сталі беларусамі. І каб жылі згодна з Божымі запаведзямі. Каб людзі павярнуліся да Бога, і тады ў іх будзе ўсё добра.



**Людміла Барэйка, прадпрымальніца:**

– Нічога добрага чакаць не прыходзіцца: зарплаты ў людзей падаюць, узровень жыцця падае, адпаведна падае і абарот у гандлі. Мы, вядома, жадаем лепшага, але, на жаль, не бачым яго. Пакуль бачна толькі, што будзе яшчэ горш, бо эканоміка наша развалілася.

**Зміцер Курцэвіч, вадзіцель:**



– Нічога такога асаблівага не чакаю. Нават і не думаў пра гэта. У мяне звычайны алгарытм: пасяўная, касьба, уборка, восень... І ў краіне нашай, думаю, нічога не зменіцца. Праўда, для сябе чакаю, што ў гэтым годзе стану дзедам.



**Таццяна Адамовіч, прадпрымальніца:**

– Стабільнасці чакаю, каб здароўе ва ўсіх было, каб вайны не было. Хацелася б, каб лепш было, хаця мы і так нядрэнна жывём. Прэзідэнт у нас нармальны, парадак ва ўсім. У Глыбокім у нас таксама ўсё добра. Мне падабаецца наш горад, асабліва зараз, перад Новым годам. Работа ў нас ёсць, можа не ва ўсіх, таму хацелася б, каб у людзей была праца, а ўсё астатняе будзе.

***Апытвалі Зміцер Лупач і Леанід Юрык***

# Божа, што мы п’ём!

**Рашыў патачыць нажы рыбалоўнага бура... Але, перад гэтым іх трэба зняць з самога бура, г.зн. адкруціць ніты (болты), якімі яны мацуюцца.**

Маць тваю за нагу! Не адкручваюцца! Заіржавелі! з месца не скрануць! Як мог сам сябе дакараў за свой жа касяк – трэба ж было ніты змазаць тэхнічным маслам ці салідолам яшчэ дзве зімы таму, як іх прыкручваў! І што цяпер рабіць? Ісці да суседа, каб “балгаркай” спілаваў?

Дзеля жарту гэтае пытанне – як адкруціць іржавыя ніты? – задаў праз інтэрнэт. А там, о дзіва, пішуць: “Не бядуйце! Выйсце ёсць!” Ды шмат выйсцяў!

Натуральна, параілі купіць WD-40 і заліць ім ніты. Можа і пайшоў бы ў краму... Аднак нядзеля, вечар, крамы зачыненыя. Ёсць яшчэ варыянт скарыстаць бензін, газу (керосин), шкіпінар, воцат. Ну, бензін дастаць не праблема... Але, далей чытаю: можна скарыстаць і Coca-Cola. Таму, што ў ёй утрымліваецца ортафосфарная кіслата. Ніфіга сабе!

Па праўдзе кажучы, слаба верылася ў поспех. Аднак згадаў, што жонка некалі вычытала “рэцэпт”: калі “круціць” жывот – папіце Coca-Cola! Спраўдзілі! Дапамагае! Праз дзесяць хвілінаў – ужо не “круціць! Усе паразіты ў страўніку перадохлі!

Паспрабую! Арасіў кока-колай ніты з двух бакоў, і няхай бур пастаіць да заўтра. Прайшло газіны паўтары... А мо ўсё ж паспрабаваць адкруціць? Крутануў ніт гаечным ключом. Нешта дужа лёгка пайшоў. Нават спалохаўся – можа разбу сарваў? Не! Пайшоў ніт! Адкруціў без праблемаў усе чатыры ніты!

І вось задумаўся. А некаторыя з асалодай п’юць гэты напой, як элексір здароўя! А ён жа жалеза раз’ядае!

*Ул. Скрабатун.*

# Вынікі “ўловаў” Глыбоцкай інспекцыі за 2016 год

**■ Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Асаблівым нацыянальным здабыткам Беларусі заўсёды была і застаецца прырода. Ад стану навакольнага асяроддзя шмат у чым залежыць лёс дзяржавы. Маючы багатыя прыродныя рэсурсы, дзяржава можа паўнавартасна развівацца, і мы, грамадзяне, абавязаны ўсяляк садзейнічаць захаванню нашых багаццяў, аказваць пасільную дапамогу прыродаахоўным органам у барацьбе з парушальнікамі і браканьерамі. Сышоў у гісторыю 2016 год, можна падвесці вынікі працы, выкананні грамадзянамі нормаў прыродаахоўнага заканадаўства. Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету ў мінулым годзе перарвана 181 парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства, з іх 49 парушэнняў правіл рыбалоўства, канфіскавана 38 браканьерскіх сетак, агульнай даўжынёй больш за 2 км., 93 кг. незаконна здабытай рыбы, 12 іншых забароненых прылад рыбалоўства, у адносінах грамадзян узбуджаны крымінальныя справы.

Выяўлена 48 парушэнняў правіл палявання, канфіскавана 10 адзінак агнястрэльнай зброі, 1 з якіх незарэгістраваная, 27 іншых прылад палявання, узбуджана адна крымінальная справа.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 17 грамадзян, якія дапусцілі іншыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства.

У мінулым годзе супрацоўнікамі міжрайінспекцыі выяўлена 65 парушэнняў правілаў лесакарыстання, у парушальнікаў канфіскавана больш за 300 м.куб. незаконна высечанай драўніны.

На тэлефон даверу міжрайінспекцыі паступіла больш за 30 паведамленняў аб здзейсненых ці здзяйсняных правапарушэннях, па ўсіх праведзена праверка, выяўлена 34 правапарушэнні.

**Канфіскавана 38 браканьерскіх сетак, агульнай даўжынёй больш за 2 км.**

У розных сродках масавай інфармацыі змешчана 86 артыкулаў і нататак пра выяўленыя парушэнні і працы міжрайінспекцыі. Штомесяц кіраўніцтвам міжрайінспекцыі праводзяцца “прамыя лініі” з насельніцтвам раёна па розныя тэмы па прыродаахоўным заканадаўстве.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам, якія аказвалі дапамогу ў барацьбе з браканьерамі.

**Тэлефоны “даверу”:** 8-02156- 55970 – кругласутачна.

Мабільныя: 8028 897-23-02, 8029890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.

# Беларусы ніколі не былі пад татара-мангольскім ярмом! А сёння?

**■ Уладзімір Скрабатун**

**У найбліжэйшы час у беларускім парламенце мае адбыцца разгляд змяненняў і дапаўненняў у законе «Аб абароне правоў спажыўцоў». Міністэрства гандлю і антыманапольнага рэгулявання, якое рыхтавала праект змяненняў, адмовілася выпраўляць сітуацыю, калі руская мова на нашых таварах з’яўляецца абавязковаю, а беларуская можа быць дададзена толькі пры асаблівым жаданні вытворцы.**







Пры вялікім жаданні, прадукцыю Глыбоцкага малочна-кансервавага камбіната, падпісаную на беларускай мове, можна знайсці і сёння, а не толькі на Дзень беларускага пісьменства і друку, аднак афармленне ўпаковак, прыведзеных на здымках вышэй, з’яўляецца паказальным па тэме нашага апавядання. Падобныя ілюстрацыі з прадукцыяй Глыбоцкага МКК выкарыстоўваюць цяпер шматлікія СМІ Беларусі для ілюстрацыі публікацый на тэму “абароны правоў спажыўцоў”.




именно Казахи это прямые татаро-монголы и потомки Золотой Орды
протоказах вдв сверхчеловек
Год назад • 61 350 просмотров




Казахи это и есть те самые татаро-монголы которым РФ платила дань. Татаро-монголы…
протоказах вдв сверхчеловек
2 года назад • 17 069 просмотров




наци в Казани протестовали против сближения татаров и казахов (татаро-монгол),но Аллах…
Kazakh News
11 месяцев назад • 11 334 просмотра

Скрыншот з экрана сайта youtube.com з анонсамі некаторых фільмаў на тэматыку татара-манголаў і Залатой Арды, якія можна ўбачыць на гэтым інтэрнэтрэсурсе.

Дзіўна выглядае: Беларусь – незалежная краіна, а прадукцыі, падпісанай на мове тытульнай нацыі, хутка можа і не быць, а калі і будзе падпісаная на беларускай мове, то толькі тады, калі сам вытворца гэтага пажадае. А калі не пажадае? У такім выпадку, гэта – не з’яўляецца парушэннем закона. І аргумент знойдзецца адпаведны! Надпісы на дадатковай мове – пацягнуць падаражэнне прадукцыі! Эканамічна не выгадна! Пры гэтым адзначаць, што яшчэ і дадатковыя выдаткі пойдуць на дызайнера ўпакоўкі і перакладчыка з рускай на беларускую...

Цяжка ўявіць, каб падобная сітуацыя ўзнікла ў Францыі, Германіі, Польшчы, на худы канец, у Літве, Латвіі, Эстоніі...

Ёсць універсальнае выказванне: “Народ, які не хоча карміць сваю армію, будзе вымушаны карміць чужую!”. Універсальнасць у тым, што можна перафразіраваць і па-іншаму: “Народ, які не хоча размаўляць на сваёй мове, будзе вымушаны размаўляць на чужой!” Натуральна, на нейкай жа мове, калі не на сваёй, усё ж народ будзе вымушаны размаўляць, бо народ – гэта не адзін жа чалавек на незаселеным востраве, дзе размаўляць няма з кім!

Апаненты могуць сказаць: “У нас дзве дзяржаўныя мовы: беларуская і руская. Калі падпісваюць упакоўкі па-руску – падпісваюць на нашай дзяржаўнай мове! Навошта тады падпісваць і на беларускай? Пытанне зняты!”

Не! Не зняты! А як быць з тым, што на Беларусі ёсць шмат людзей, якія не згодныя, нават асуджаюць расійскую агрэсію супраць Украіны, калі забіваюць грамадзянаў гэтай краіны? І з такой нагоды шмат хто не хоча не толькі размаўляць, а чуць і чытаць на гэтай мове. Са згаданай акалічнасцю ўжо трэба лічыцца, бо тут – не пару чалавек з нашай краіны, нават калі і не 9,5 мільёнаў, то пад 2 мільёны, хутчэй, знойдзецца. Таму, шмат хто прагне, каб на адным з бакоў упаковак, акрамя рускай мовы, былі надпісы і на беларускай!

Варта пры гэтым адзначыць, што на Беларусі расце цікавасць да роднай мовы, у буйных гарадах нашай краіны арганізоўваюцца масавыя курсы беларускай мовы. Сапраўды, як сцвярджаюць многія, найноўшае беларускае адраджэнне ўжо прыйдзе не з выміраючай вёскі, дзе засталіся адны нямоглыя пенсіянеры, яно, перадусім, прыйдзе з горада! На змену вяскоўцам – кіраўнікам усіх рангаў – якія запаланілі цяпер усю краіну, прыйдуць, урэшце рэшт, гарадскія.

Мы жывём у вельмі неардынарнай краіне, якая не ўпісваецца ў звыклыя і зразумелыя схемы... У нас можна не толькі плаціць мізэрныя заробкі і пенсіі, але і затрымліваць іх, плаціць падатак не з даходу, як паўсюль у свеце, а з беспрацоўя (т.зв. дармаедства). Жывём у краіне, дзе высокакваліфікаваным спецыялістам няма працы! І адкуль ёй узяцца, калі вытворчасць “лягла”? З’язджаюць за мяжу за лепшай доляй не толькі інжынеры, урачы, нават пекары і павары. Апошні прыклад – вядомы на Беларусі пекар з Верхнядзвінска Кастусь Ларкоў пераехаў ў Вільню, бо тамтэйшая фірма прапанавала больш прывабныя перспектывы і заробак, чым хлебазавод на радзіме. Наша нацыянальная рыса – зняважаць сваю мову, гісторыю і забыцца на сваё слаўнае мінулае?

Раней была аксіёма, якая занесеная і ў падручнікі гісторыі: рускія амаль 300 гадоў стагналі пад татара-мангольскім ярмом... Беларусь, аднак, пад татара-мангольскім ярмом ніколі не была. Цяпер рускія ўсяляк стараюцца аспрэчыць гэты гістарычны факт – вельмі ж непрыгожая пляма на тварах вялікай нацыі!

А вось сённяшнія казахскія нацыяналісты, перадусім гісторыкі, ніколькі не сумняваюцца, што міфічныя татара-манголы – ніхто іншы, як продкі сучасных казахаў! І гэта не адзінкавая якая публікацыя, а сотні публікацый і відэаролікаў. Наколькі казахі маюць рацыю – гэта не пытанне для беларусаў, а праблема руска-казахскіх узаемадачыненняў.

Шматлікіх беларусаў турбуе толькі тое, што месца беларускай мовы на ўпакоўках беларускай прадукцыі, якая рэалізуецца ў нашых крамах, займае казахская, а хутка мо і зойме гэтае месца канчаткова! Ну, і за што мы цяпер плацім даніну “татара-манголам”?



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# З разумення, навошта ты на гэтым свеце жывеш?

**"Вялікая магутнасць сумлення: яно дае сабе аднолькава адчуваць, адымаючы ў нявіннага ўсякую боязь і няспынна малюючы ўяўленню вінаватага ўсе заслужаныя ім пакарання".**

*Цыцэрон.*

**"Каб я мог жыць у свеце з людзьмі, я першым чынам павінен жыць у свеце з самім сабой. Ёсць у чалавека нешта такое, што не падпарадкоўваецца большасці, – гэта яго сумленне".**

*Х.Лі.*

Жыць па сумленні – гэта значыць быць асобай духоўнай, учынкі якой суадносіліся б з вечным уяўленнем аб прызначэнні чалавека.

Як жыць і што рабіць сумленна? Па-першае, мы павінны быць правільна арыентаваныя, маральна і духоўна, гэта значыць, ведаць тыя каардынаты, па якіх павінен адбывацца рух жыцця. Таму што ў многіх выпадках адбылася падмена маральных паняццяў, і пачалося гэта не ўчора, не ў 30-я гады, а нашмат раней, магчыма 100 з лішнім год назад, і калі ў якінебудзь момант адбывалася выпраўленне грамадскай маральнасці, то затым зноў многае гублялася.

Паняцці, якія былі маральнасцю, натхнёнасцю, сумленнем да пачатку Першай сусветнай вайны, сталі губляць ранейшыя рысы і жывое значэнне, і ўсё больш ператвараліся ў мілую трухлявасць бабуліных сундукоў. Праз яшчэ гадоў так пятнаццацьдваццаць аб іх і ўспамінаць стала непрыстойна. Іх зацанілі і ператварылі ў старарэжымную ідэалогію новыя патрабаванні. Далей за ўсіх трымалася сумленне, але затым і з яго зрабілі інструмент паслухмянасці. Маральнасць замянілі выконваннем пісаных законаў, духоўнасць замянілі палітадукацыяй. Жыццё перайшло ў знешнія формы, унутранае ганьбілася.

Можна гаварыць аб вяртанні маральнасці і духоўнасці ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Але ў іншай якасці. Бадай, можна з упэўненасцю гаварыць аб вяртанні слоў, якія плявузгаюць зараз бязлітасна, пад словамі ж вельмі часта мы маем на ўвазе зусім розныя рэчы. Зараз цяжка разабрацца, што маральна, што антымаральна. І справа не ў ціску афіцыйнага пункту гледжання. Афіцыйны пункт гледжання не забараняе мець правільнае ўяўленне аб гэтых каштоўнасцях. Але чалавек паспеў заблукацца, пайшоў за нейкай абманнай сістэмай маральных паняццяў і дазволіў завесці сябе ў такія нетры, з якіх зараз няпроста выйсці. Нават і маючы магчымасць выбрацца, ён не ведае, як гэта зрабіць, а часцей за ўсё не ведае, што і патрэбна выбірацца, думаючы, што ён знаходзіцца на правільным шляху.

Так што жыць па сумленні – гэта перш за ўсё знайсці сваё месца ў маральным светапоглядзе, зразумець меру свайго адхілення ад тых нормаў і правілаў паводзін, па якіх ты павінен жыць, а потым ужо, зыходзячы з разумення, навошта ты на гэтым свеце жывеш, прадоўжыць свой жыццёвы шлях, узгадніўшы з вечным, якое перадаецца з пакалення ў пакаленне ўяўленнем аб тваім прызначэнні ў гэтым жыцці.

А што тычыцца чыста практычных праяваў сумлення – у адносінах да працы, да блізкіх, да навакольных, тут, напэўна, усё зразумела – не нашкодзь, рабі так, як табе хацелася б, каб рабілі з табой. Сумленне існуе як бы ў двух этапах: духоўнае сумленне – вышэйшае. Практычнае – не ўкрадзі, не абмані, не здрадзь... Але ж і крадуць, і абманваюць, і здраджваюць, а да блізкіх сваіх, да дзяцей клапатлівыя, добрыя і таксама павучаюць іх: не ўкрадзі, не абманвай, не здраджвай...

Але ёсць людзі, і апрытым многія, якія маюць двайное сумленне – на службе адно, дома другое – гэта ўжо ад сапсаванасці, ад прыстасаванасці. А ёсць людзі, якія так не ўмеюць, яны ў горшым выпадку адмоўчваюцца там, дзе патрабуюць ад іх сумленнем пакрывіць, або гаварыць праўду. Пакутуюць за яго, але – гавораць. На жаль, такіх мала, і ў іх вельмі цяжкае жыццё.

Але ж зараз завядзена хітрыць, маючы адно сумленне для грамадскіх патрэб, а для сябе, для асабістага карыстання – другое. Але калі сумленне ўдзельнічае ў абмане, гэта ўжо не сумленне, а нешта іншае, пошлае, гадкае. Абман – гэта іржа, яна праявіць сябе і ў дамашніх умовах, і на працы, і ў асабістым жыцці. Адзін бок сумлення не можа доўга заставацца чыстым. Няшчырасць будзе падаўляць шчырасць, і параза непазбежна, бо праўдзівасць позна ці рана пераможа.

Хрысціянская рэлігія трымае сваю паству ў стане сумленнасці сродкамі дзесяці запаведзяў Гасподніх. Камунізм таксама, калі зразумеў, што сумленне ў народзе прымае двайныя стандарты, выпрацаваў маральны кодэкс будаўніка камунізму. Але ён не адыграў ніякай ролі, бо ў жыцці сумленне звычайнага камуніста і партыйнага боса не супадалі.

Сучаснае жыццё прывучыла чалавека трымаць свой пункт гледжання за сямю пячаткамі. Нарадзіла новага чалавека, які абыякава адносіцца да ўсяго, што адбываецца вакол яго. З'явілася новая катэгорыя абыякавых людзей. А гэта прыдатная глеба для развядзення бюракратыі, казнакрадства і злачыннасці. Мы рухаемся да непапраўных вынікаў у лёсе нашага народа.



# Распаўсюджанасць бактэрыі хелікабактар сярод жыхароў Беларусі ўдвая большая, чым у ЕС

**Сярод жыхароў Беларусі распаўсюджанасць бактэрыі хелікабактар больш, чым удвая перавышае паказчыкі ў краінах Еўрасаюза, паведаміла галоўны пазаштатны гастраэнтэролаг Міністэрства аховы здароўя Юлія Гаргун на прэс-канферэнцыі ў Мінску 14 снежня.**

Паводле яе слоў, каля 80% дарослага насельніцтва Беларусі заражаныя хелікабактарам, а ў краінах Заходняй Еўропы і ЗША — 30-40%. Такі ж узровень заражэння хелікабактарам, як у нашай краіне, назіраецца ва Украіне і ў Расіі.

«Распаўсюджанасць інфекцыі вызначаецца тым, наколькі развітая краіна, наколькі добрыя сацыяльныя і гігіенічныя ўмовы. У развітых краінах інфікаванасць пачала зніжацца, калі праблема стала вядомая. Напрыклад, у Японіі праводзіцца дзяржаўная палітыка па правядзенні скрынінгу і лячэння хелікабактару, што разглядаецца як асноўны метад прафілактыкі раку страўніка. У выніку інфекцыя досыць хутка ідзе на змяншэнне. Калі ж усё залежыць толькі ад стаўлення пацыента і доктара, сітуацыя іншая. Акрамя таго, чым менш насельніцтва інфармавана аб праблеме, тым яно менш актыўна лечыцца», — сказала Гаргун.

**Хелікабактар можа выклікаць хранічны гастрыт, які пераходзіць у язву страўніка і дванаццаціперснай кішкі, а таксама павышае рызыку развіцця раку страўніка.** *«Хелікабактар разглядаецца як дакладны вызначаны фактар развіцця раку страўніка, а па распаўсюджанасці гэтага захворвання Беларусь займае адно з першых месцаў у Еўропе»*, — адзначыла Гаргун.

Людзі, інфікаваныя хелікабактарам, часам не адчуваюць ніякіх сімптомаў, хвароба працякае вельмі часта скрытна. Для выяўлення хелікабактару неабходна звярнуцца да доктара, які прызначыць фібрагастраскапію. У выпадку выяўлення бактэрыі неабходна прайсці спецыяльнае лячэнне.

Як адзначыла спецыяліст, еўрапейскія рэкамендацыі лячэння хелікабактару грунтуюцца на тым, што неабходнасць лячэння ацэньваецца індывідуальна ў кожным канкрэтным выпадку. Рэкамендацыі лячыцца адразу ўсім членам сям'і няма. Аднак часцей за ўсё, у выпадку калі ў каго-небудзь з сям'і ёсць хелікабактар, могуць заразіцца і іншыя. Большасць дзяцей, у якіх выяўляецца інфекцыя, заразіліся ад бацькоў. Наконт шляхоў заражэння дарослых, сказала доктар, у Беларусі даследаванняў не праводзілася. Таму яна не змагла сказаць, якім чынам жыхары краіны заражаюцца хелікабактарам.



У любым выпадку курс антыбіётыкаў прызначаецца на аснове дадзеных даследаванняў, стану хворага. Каб пазбегнуць прывыкання, не павінна быць бесконтрольнага прымянення антыбіётыкаў, сказала Гаргун.

*«І пацыенты, і дактары павінны ведаць, што, калі лячэнне праводзілася, неабходна прайсці тэст па яго выніках. Інакш гэта ўсё губляе сэнс»*, — дадала доктар.

Пракантраляваць вынікі можна з дапамогай вугляроднага дыхальнага апаратнага тэста, які праводзіцца на спецыяльным сертыфікаваным абсталяванні. Такія апараты ёсць у буйных бальніцах і медцэнтрах у кожнай вобласці. Тэсты часцей за ўсё робяць на камерцыйнай аснове, бо методыка «даволі дарагая». На бюджэтнай аснове выкарыстоўваецца фібрагастраскапія з біяпсіяй. Доктар не рэкамендавала выкарыстоўваць сералагічны метад дыягностыкі для кантролю лячэння хелікабактару (аналіз крыві).

Каб не інфікавацца бактэрыяй хелікабактар, неабходна выконваць правілы асабістай гігіены, сказала доктар. Па магчымасці пазбягаць посуду, які мог быць у нечым карыстанні, не ўжываць сумніўныя прадукты, якія могуць аказацца недабраякаснымі.

*БелаПАН.*

АСЦЯРОЖНА – ГАЛАЛЁД!

# Паводле статыстыкі колькасць вулічных траўмаў узімку павялічваецца ўдвая

■ Ю.Самусева,
*заг. адд. гігіены Глыбоцкага РЦГЭ.*

**У зімовы перыяд значна павялічваецца колькасць вулічных траўмаў, звязаных з падзеннем, асабліва падчас галалёдзіцы. То плюсавая тэмпература паветра, то маразы выклікаюць утварэнне на ходніках, дарогах галалёду і наледзі.**

Паводле статыстыкі колькасць вулічных траўмаў узімку павялічваецца ўдвая. Найболей часта сустракаюцца пераломы прамянёвай косткі, лодыжак і ключыцы, удары плечавай косткі, пераломы костак галёнкі і пашкоджанне звязкавага апарата галёнкаступнёвага і каленнага суставаў, чэрапна-мазгавыя траўмы.

Частая прычына галалёдных траўмаў – спешка. Шмат хто папросту не заўважае лёду, прыпарушанага снегам, у выніку чаго валяцца і атрымліваюць розныя траўмы. Найболей траўманебяспечнымі месцамі з'яўляюцца абледзянелыя: тратуарная плітка, прыступкі пад'ездаў і падземных пераходаў. Акрамя таго, значная частка траўмаў звязана з грамадскім транспартам. Слізгаюцца і валяцца як пры ўваходзе ў аўтобус, так і пры выхаду з яго. Дзеці і моладзь любяць пракаціцца з разбегу на слізкай дарожцы, горцы. У такім разе звычайна абыходзяцца ўдарамі. Але не заўсёды.

Даволі часта "галалёдные" пераломы атрымліваюць людзі ў стане алкагольнага ап'янення. Гэта звязана з паслабленнем у іх тонусу цягліц. Больш таго, знаходзячыся "пад градусам", чалавек можа нейкі час ігнараваць боль нават пры сур'ёзнай траўме. Так ён выпускае магчымасць своечасовага звароту да ўрача.

**Як прадухіліць магчымыя траўмы?**

Прадухіленне траўмаў можна аднесці да сферы іх прафілактыкі. Для папярэджання зімовага траўматызму неабходна выконваць наступныя простыя правілы:

**Правільна выбірайце абутак.** Пажадана набываць абутак з глыбокім малюнкам пратэктара, элементы якога накіраваны ў розныя бакі. Пераважны матэрыял падэшвы – термаэластапласт. Пратэктар з поліўрэтана на марозе слізгае куды мацней.

На падэшву ўжо наяўных слізкіх ботаў ці чаравік можна прыляпіць кавалачкі наждачнай паперы. Зусім



просты варыянт – лейкапластыр. Хопіць яго ненадоўга, аднак ён дапаможа забяспечыць устойлівасць нават у моцны галалёд.

Прадстаўніцам прыгожага полу ў "слізкае" надвор'е лепш адмовіцца ад абцасаў. Бо чым большая плошча судотыку падэшвы з зямлёй, тым устойлівей наша становішча. Менавіта таму ісці ў галалёд варта адразу ўсёй ступнёй. Перасоўвацца трэба не спяшаючыся, дробным крокам, ногі павінны быць паслаблены, цэнтр цяжару ссунуты крыху наперад. У руках па магчымасці пажадана нічога не несці, тым больш, сама не варта трымаць іх у кішэнях. Рукі дапамагаюць захаваць раўнавагу.

Ніколі не хадзіце па беражку тратуара побач з праезнай часткай. Такса-ма, чакаючы аўтобус, не стойце на краю прыпынку. Страта раўнавагі ў такім становішчы пагражае не проста падзеннем, але і небяспекай патрапіць пад колы. Ні ў якім разе не перабягайце праезную частку. Лепш страціць некалькі хвілін і спакойна перайсці вуліцу ў адсутнасці аўтамабіляў, чым апынуцца бездапаможна ляжалым пасярод дарогі. Памятайце і пра кіроўцаў. Спыніць аўтамабіль у галалёдзіцу нават пры невялікай хуткасці нялёгка. Таму, падышоўшы да пешаходнага пераходу, не спяшайцеся выходзіць на праезную частку, дачакайцеся, пакуль аўтамабілі спыняць рух.

Выкананне гэтых простых правіл падчас галалёду, значна зменшыць колькасць траўмаў.

Увага і асцярожнасць з'яўляюцца асноўнымі сродкамі для прафілактыкі траўматызму, і не толькі зімовага. А таму, выходзячы на вуліцу, асабліва ў тыя дні, калі "плюс" на вуліцы змяняецца на "мінус" ці наадварот, трэба ацэньваць кожны свой крок! Памятайце, лепшая прафілактыка зімовых траўмаў – гэта абачлівасць!

# У Новы год краў каляровы метал з электраўстаноўкі

**А.С.Крывёнак,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе.*

**Адной з самых характэрных прычын узнікнення няшчасных выпадкаў з'яўляецца самавольнае пранікненне ў электраўстаноўкі.**

31.12.2016 года на дыспетчарскі пункт дзяжурнага дыспетчара РЭС філіяла "Жлобінскія электрычныя сеткі" паступіў званок ад РАНС, што ў н.п.Чырвоная Горка пад напругу патрапіў чалавек. Выязная брыгада РЭС выехала на агляд паветранай лініі (ВЛ-10кВ). Пры аглядзе ВЛ-10кВ побач з трансфарматарнай падстанцыяй (КТП) быў выяўлены пацярпелы са слядамі тэрмічных апёкаў.

Падчас агляду выяўлена, што абсталяванне размеркавальнай прылады (РУ) КТП было дэмантавана з мэтай крадзяжу каляровага металу, з трансфарматара было зліта масла. З дзвярэй КТП былі спілаваныя навясныя замкі і ляжалі побач.



Пацярпелы з мэтай крадзяжу провада залез на раз'ядняльнік і крануў провада, які знаходзіўся пад напругай. У гэтым выпадку прычынай няшчаснага выпадку стала грэбаванне смяротнай небяспекай, якую ўтойвае электрычны ток.

На жаль, бяспечныя, а парой і злачынныя паводзіны людзей прыводзяць іх да гібелі, пераутвараючы электрычнасць у страшную, разбуральную сілу і яшчэ раз нагадваючы ўсім, што кожны чалавек павінен адказна ставіцца да пытанняў электрабяспекі, берагчы і шанаваць сваё жыццё і здароўе.

У пазбяганне выпадкаў паразы электрычным токам будзьце ўважлівыя, знаходзячыся побач з электраўстаноўкамі, ні ў якім разе не пранікайце ў іх. У адваротным выпадку гэта можа прынесці непапраўную шкоду здароўю, аж да смяротнага зыходу.

# Гідрамет плануе ўвесці ў Беларусі новыя кліматычныя нормы

**У новым годзе Гідрамет увядзе новыя кліматычныя нормы, паведаміў 5 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік службы навукова-метадычнага забеспячэння гідраметэаралагічнага і радыяцыйна-экалагічнага маніторынгу і фондаў дадзеных Гідрамета Віктар Мельнік.**

Паводле яго слоў, пацяпленне клімату, якое назіраецца з 1989 года, патрабуе ўвядзення новых кліматычных нормаў.

Спецыяліст адзначыў, што ў сваім рашэнні Гідрамет таксама кіруецца рэкамендацыямі Сусветнай метэаралагічнай арганізацыі. Новыя кліматычныя нормы будуць характарызаваць пацяпленне клімату ў Беларусі за апошнія 30 гадоў.

«Мы лічым, што ў першую чаргу новыя нормы важныя для працы галін эканомікі, асабліва ў будаўніцтве, сельскай гаспадарцы, энергетыцы, — падкрэсліў Мельнік. — Пры планаванні сваёй дзейнасці ім трэба кіравацца больш актуальнымі кліматычнымі нормамі».

Ён адзначыў, што мінулы год выдаўся цёплым, хоць і не рэкордным, як 2015-ты. Аднак, заявіў спецыяліст, 2016 год пацвердзіў глабальнае змяненне і пацяпленне клімату. Таксама прадстаўнік Гідрамета адзначыў цёплую зіму мінулага года і «даволі камфортнае лета», якое пасля спёкі і засухі 2015 года дало «перадышку сельскай гаспадарцы».

Адказваючы на пытанне аб стане азімых, Мельнік станоўча ахарактарызаваў снегапады, якія прайшлі ў Беларусі.

«Наяўная сітуацыя спрыяльная для пасеваў. Пласт снегу будзе надзейна ахоўваць азімыя ад маразоў. У дваццатых чыслах студзеня нашы сеткавыя падраздзяленні зробяць першыя вырошчванні азімых культур, і будзе вядомы працэнт іх зрэджанасці, — сказаў спецыяліст. — У лютым будуць праведзены паўторныя вырошчванні».

Паводле яго слоў, пакуль ніякіх неспрыяльных прагназаў у дачыненні да азімых няма.

*БелаПАН.*

# Мёры на працягу студзеня будуць адзначаць 45-годдзе атрымання статусу горада

**Мёры адзначаюць 45-годдзе ад дня атрымання статусу горада: мерапрыемствы, прысвечаныя гэтай даце, будуць праходзіць на працягу амаль усяго студзеня, паведамляе БелТА са спасылкай на мясцовы райвыканкам.**

Абвешчаны фотаконкурс "Особый взгляд. Мой город", а з 9 па 14 студзеня ў навучальных установах раёна пройдуць тэматычныя класныя гадзіны і віктарыны. З 13 студзеня ў гісторыка-краязнаўчым музеі будзе адкрыта тэматычная выстава.

Плануецца і шэраг масавых мерапрыемстваў. З 11 студзеня жыхароў Мёршчыны запрашаюць да ўдзелу ў зімовым спаборніцтве "Здоровье" і творчым вечары-сустрэчы ў цэнтральнай бібліятэцы. На 14 студзеня запланавана свята "Рождественское волшебство" для дзяцей і бацькоў з малазабяспечаных сем'яў. 15 студзеня на базе ФСК "Мёры" пройдзе маштабнае зімовае спартовае свята, прысвечанае Сусветнаму дню снегу. Плануюцца забавы для розных узроставых груп.

Акрамя таго, на студзеньскія дні ў раёне прыйдзецца яшчэ адзін юбілей - 15-годдзе мясцовага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

*БелТА*

